## АД РЭДАКЦЫІ.

Рэдакцыя „Маладога Жыцьця“ просіць прабачэньня паважаных падпішчыкау за часовае спыненьне у выпуску часопісі. Некаторыя зьмены у рэдакцыйнай камісіі дадуць магчымасьць выдаваць „М. Ж.“ раз у месяц, або найдаужэй у два месяцы.

**Рэдакцыя.**

# Беларуская моладзь арганізуймося!

*Вільня, 6 красавіка* 1922 *года.*

Беларуская моладзь! Арганізуймося!!!

Гэты кліч мы разсылаем па ўсей бацькаўшчыне да братоў сваіх беларусаў, такіх самых маладых як мы і маем надзею пачуць пажаданы для нас водклік з усіх куточкаў Беларусі.

Браты! Перш за ўсё мы павінны мецъ на увазе, што мы, моладзь, з часам новае, а цяпер маладое пакаленьнэ, прыгатаўляемся стаць грамадзянамі бацькаўшчыны, прыгатаўляемся стаць у рады адраджэнцаў яе, з тым, каб бараніць інтэрэсы бацькаўшчыны,—бараніць правы яе палітычнага істнаваньня, бараніць правы нашага народу.

Прыдзе час калі мы самі павінны будзем узяцца за Беларускія справы, пашырыць сьвядомасьць і культуру паміж беларускага народу, і наагул дабівацца спаўненьня нашых ідэалаў.

Мы павінны ведаць, што на нас пакладаюць надзеі нашы прадвесьнікі, першыя беларускія адраджэнцы—сучасныя дзеячы, якія першыя захапіліся ідэяй адраджэньня, якія пакладаюць для яе ўсе свае сілы, сьмела ідуць па выбранаму шляху, ня гледзячы на розныя перашкоды, спатыкаючыя іх на кожным кроку.

Некаторыя з іх адыйшлі на той сьвет, не дачакаўшы спаўненьня сваіх ідэалаў; але памяць аб іх будзе жыць паміж нас заўсёды, бо яны заставілі нам свае сьветлыя думкі, яны паказалі нам шлях, па якому самі ішлі, і па катораму мы так сама павінны пайсьці, каб дабіцца спаўненьня нашых ідэалаў.

Яны-ж адыходзілі з гэтага сьвету з думкамі, што зерняты, разсеяныя імі паміж нас, западуць глыбока ў маладыя душы нашы, з надзеяй што мы — моладзь возьмемся за пачатую імі працу, і не шкадуючы, так як і яны, сіл сваіх, давядзём яе да канца.

Некаторыя з іх, разлучаныя з сем'ямі, адарваныя ад роднага кутка, змушаны туляцца па чужых землях, шукаюць прыпынку ў чужых жюдзей, за тое, што не пабаяліся быць вернымі беларускай ідэі і не чураліся свайго роднага, за тое, што не пабаяліся быць вернымі праўдзе. Але ўсе мукі якія цярпелі і цярпяць нашы прадвесьнікі за нашы агульныя ідэалы, павінны зачапіць нашы маладыя душы, распаліць нашы сэрцы любоўю да бацькаўшчыны, да на нашай агульнай беларускай справы і скіраваць нашы думкі, нашы пажаданьні да аднаго цэлага, вялікага, сьвятога, каб дабіцца выпаўненьня пачатых імі мэтаў.

А паглядзім на народ наш, разгледзім жыцьцё яго, унікнім у яго думкі, ў яго пажаданьні, спытаемся чаго і скуль ён чакае?

Мы ўбачым, што палажэньне яго як матэр'яльнае так і маральнае надта цяжкае; вечныя крыўды, несправядлівасьці даядаюць яго аканчальна; войны за яго-ж самога, за зямлю яго, пустошаць край, дратуюць зьлітую потам яго ніву, паляць вёскі і аканчальна руйнуюць жыцьцё яго. Уласныя сыны яго змушаны ісьці служыць чужынцам, праліваць ні зашто ні-прашто кроў сваю, дратаваць родную, абробленую, з потам і кроўю сваім-жа бацькам, ніву.

Ен-жа, спакойна цярпеўшы ў працягу вякоў уціск, хоча нямнога: хоча спакою, праўды, справядлівасьці, асьветы, хоча „людзьмі звацца“, хоча права, якім карыстаюцца ўсе народы, права, якім Бог надзяліў першага створанага ім чалавека.

А скуль-жа, ад каго спадзявацца выпаўненьня гэтых пажаданьняў? Хто будзе бараніць правы яго? Ці можа хто з суседзяў якія вядуць барацьбу за панаваньне над ім і сулюць залатыя горы? Не, бо да-

гэтуль нічога нечутно аб гэтым, бо кожны думае толькі аб сабе, бо кожнаму свая кашуля бліжэй к целу.

Дык хто-ж возьмецца за абарону правоў нашага народу, за выкараненьне злога, несправядлівага? Хто разьвее цемру і невежэства яго акружаючае?

Мы самі, сыны народу!

Мы самі павінны ўзяцца за нашу агульную справу!

Мы павінны вясьці народ наш да праўды, да сьвятла, да лепшай долі! Мы павінны разам з ім будаваць агульнае жыцьцё наша і ў фундамэнт гэтай будоўлі палажыць свае маладыя сілы!

Мы павінны пайсьці па тых шляхох, па якіх хадзілі і ходзяць нашы прадвесьнікі, разганяючы цемру, пашыраючы сьвядомасьць і асьвету паміж беларускага народу.

Але пакуль узяцца за якую небудзь працу трэба быць падгатаваным да яе, каб уступіць ў самастойнае жыцьцё, трэба так сама прыгатавацца да яго, і раней чым пачаць барацьбу трэба абгледзіць і ўзмацаваць свае сілы. Вось дзеля гэтага нашай моладзі трэба злучыцца цясьней, трэба арганізавацца, трэба пазнаць бліжэй адзін другога, трэба пашыраць сьвядомасьць і асьвету паміж сябе, бо каб разганяць цемру, — трэба быць самім асьвечанамі, каб пашырыць сьвядомасьць, — трэба быць самім сьвядомымі, каб вясьці барацьбу за праўду, за справядлівасьць, за выкараненьне зла, — трэба быць самім добрымі і справядлівымі і зараньне прывыкнуць глядзець сьмела праўдзе ў вочы. Каб вясьці барацьбу за добра наагул трэба быць сільнымі. А сіла толькі ў арганізацыі, у цесным зьвязку. Што знача адзінка ў параўнаньні з цесна злучанай супольнай грамадзянскай сілай? — Нічога.

Толькі ў арганізацыі мы пачуем моц сваю толькі ў цесным зьвязку і злучаныя ў адно, мы можам пачаць працу.

Беларуская моладзь у гарадох мястэчках і вёсках, перш за ўсё павінна тварыць свае арганізацыі,

узяцца за самаасьведамленьне і асьвету: адчыняць бібліатэкі-чытальні, чытаць рэфэраты выпісываць газэты і кніжкі і г. д.

Узяцца за пашырэньне сьвядомасьці навокал; ладзіць спэктаклі-вечары і рабіць зносіны з моладзью бліжэйшых вёсак. Кожная арганізацыя моладзі і моладзь наагул павінна мець зносіны з цэнтрам, з белаускай моладзью м. Вільні. „Маладое жыцьцё“, мэтай якога ёсьць аб‘еднаньне беларускай моладзі, зьяўляецца нашым органам, і дзеля таго ўся беларуская моладзь павінна прысылаць у рэдакцыю гэтай часопісі карэспандэнцыю з мейсцу і зьмешчаць свае артыкулы, прыняўшы пад увагу, што „Маладое жыцьцё“ ёсьць агульнай нашай часопісью і ўсецэла задаецца мэтаю будзіць нас да праўдзівага маладога жыцьця і прыпамінаць нам нашы абавязкі.

Дык да працы браты дарагія!

Вялікая і цяжкая праца чакае нас!

Кожны ў каго б‘ецца маладое сэрца, хто чуе ў сабе сілу, каму дарага будучына бацькаўшчыны, хто баліць душою за ўсё тоя што рабілася і робіцца на зямлі нашай, павінен узяцца за гэту працу, павінен аддацца ёй усей душой, каб дабіцца выпаўненьня нашых мэтаў, і апраўдаць зложаныя на нас надзеі!

**В. Г.**

# Грамадзяне, пачуйце!

Супольнымі маладымі сіламі выпускаемо мы ў сьвет пасьля доўгага перарыву чародны нумар нашае часопісі. Мы стараемся даказаць сьвету цэламу, што і мы жыць, разьвівацца і свой голас у грамадзянстве мець хочам. Мы хочам будзіць сваіх прыспаўшых равесьнікаў, прышлае пакаленьне нашага грамадзянства. Мы хочам згуртавацца, каб далей ісьці супольнымі сіламі. Мы хочам прыгатаваць з сябе спадзейны матэрыял для вялікае жыцьцёвае будыніны. Мы разумеем, што нам трэба толькі паставіць сябе на ногі і па-

казаць яму запраўдны шлях: ён пойдзе далей сам. Ен зьдзейсьніць, ускладаныя на яго грамадзянствам, спадзеі; ён будзе тым гарном, што цяплом сваім згуртуе каля сябе ўсе элемэнты сваіх равесьнікаў і шыршага грамадзянства, жадаючых цяпла і сьвятла праўды жыцьцёвай. Ен будзе тым цэнтрам цяжэсьці, да каторага ўсё цяжыць будзе і пахіляцца. Мы верым ў гэта і хочам працаваць дзеля гэтай сьвятой ідэі, каб зьдзейсьніць гэтым нашы лятуценьні аб шчасьліўшай будучыні, каб апраўдаць зразуменьне намі свае ролі ў жыцьці роднае старонкі — Беларусі.

Грамадзяне! Каб правесьці выстаўленую сабе праграму, мы, арганізуючаяся моладзь, павінны мець свой орган, у каторым бы мы маглі выяўляць свае думкі, праэкты, выліваць усю сваю душу. Праца наша, што павінна быць прадуктыўнай, агульна-пашыраючайся,—у найлепшым выпадку зробіцца лёкальной, а то і зусім заглохне.

Каб жыць—трэба дыхаць! Такім органам дыханьня ёсьць для нас свая кніжка, сваё друкаванае слова, свая часопісь і наагул сваё выдавецтва. Мы ўздабыліся на мінімум заспакаеньня нашых духовых запросаў: мы ўздабыліся на сваю, на пачатку так скромную, часопісь. Гэтая адзіная артэрыя нашага жыцьця, што цячэ яшчэ так слаба, так нядужа, што кожны гарбок няроўнасьці ейнага русла, пагражае запыніць яе, а крый Божа, і стрымаць, — ёй пагражае небясьпека—завянуць і... высахнуць з-за адсутнасьці толькі матэр'яльных срэдстваў да дальшага жыцьця.

Грамадзяне! Не дапусьціце, не пазвольце без пары вянуць таму, што рвецца к жыцьцю і здольна разьвівацца і красаваць. Ня дайце гібець і нудзець таму, перад каторым шлях вольны ляжыць. Не замарэце голадам духовым тых душ, што духам жывуць і да яго кіруюцца. Ня вырывайце ім з рук апошняй лыжкі духовай стравы і ня дайце занікнуць нашай часопісі, успамагаючы яе матэрыяльна. Успамажэце яе хто чым і як можа, і споўніце гэтым свой абавязак.

# Наша Бацькаушчына.

Каліс Беларусь, наша матка,
Была незалежнай зямлёй,
Цьвіла, красавалась як кветка,
Расла, пацяшалась сабой.
Усім добра было на зямліцы...
Жыў кожны сабе ў сваёй хаце,
Араў, ды касіў сваё збожжа,

Да ладу зьбіраў ўсё багацьце,
У вочы ўсё міла глядзела..
Прырода як-бы весялілась,
А сэрца ў грудзёх з кожнай хвіляй
Сьмялей, весялей, усё білась.
Але ворагам стала завідна,
Пачалі яе крыўдзіць з бакоў,
Цяжка народу жыць стала...
І плакаць быў кожны гатоў.
Любая бацькаўшчына, наша!
Шмат вынясла зьдзеку яна,
Але ўзмацаваўшы карэньня,
Загінуць усё-ж не магла.
Выбіўшысь з сілы нарэшцы,
Звалілась яна, зьнемагла,
І доўга ў забыцьці ляжала...
Патроху ўставаць пачала,
І верма мы,—прыйдзе часіна,
Калі паўстане на ногі мацней,
Паўстане яна як з магілы
І жыць распачне як раней.

Вуч. 3 кл. М. Парашкевічанка.

# Якуб Колас як нацыянальны паэт.

Якуб Колас радзіўся у Случчыне — ў самым цэнтры Беларусі, гадаваўся паміж беларускіх сялян, змалку прывык да беларускай прыроды, да беларускіх звычаяў, беларускай вёскі. Вучачыся ў вучыцельскай сэмінарыі ў Несьвіжы, ён заўсёды знаходзіўся між беларусаў, сваіх калегаў і надта рана зрабіўся сьвядомым. Усе творы Коласа пранікнуты любоўю да ўсяго роднага, жальбамі на труднае палажэньне беларуса, жаданьнямі і вераю ў адраджэньня.

У ўступным вершы да песень жальбы ён кажа не пытаць не прасіць у яго сьветлых песень, бо ад іх жаль скалыхне ўсю душу яго, бо „на жыцьце як паглянеш сэрца болям зашчаміць.“ І далей у ўсім зборнічку гэтым ён жаліцца на беднату беларуса, на гаротную мужыцкую долю, на цемнату і у ц і с к акружаючыя яго з усіх бакоў.

Ен сумуе бачучы родны край бедным, няпрыхільным, „забытую Богам старану“.

Усюды тут пануе беднасьць, кругом гразь, балота, цы пясок; народ жыве бедна, ходзіць у гразі, хоць „працуе—льецца пот“. Вёскі пазіраюць сумна, няпрытульна, усюды

„сьцішна, нудна, як у вастрозе, як на могілках якіх“ (Наш родны край“); „як успомніш кут свой родны няпрытульны і халодны“, сэрца яго сьціскае жаль. Вёска выглядае сіратою: хаты пахіліліся, стрэхі абрасьлі мохам, вокны пазатыканы анучкамі, альбо лучынкамі, школа спарахнела і згорбіліся як склюд, вербы і тыя стаяць у кучцы, згорбіўшыся, як старыя кабеты (Наша сяло,) „дабра тут ня бачыць зроду, гаспадар тут марнее, нуда людзкая тут жыве, гора прытулілася і толькі „сьмерць дзяцей, хвароба злая тут знайшлі прытульны кут.“ (В ё с к а.)

Мужыцкая ніва — сіротка ў полі, заглушана зельлям, зрасла густою дзікаю травою, каласы на ёй пустыя, ня гледзячы на тое што палівана яна мужыцкім потам. Песьня беларуская нудная, спавітая горам—гэта скарга віснучая ўздоўж Нёмна, і такая яна нудная, што пачуўшы яе „ўцякаў-бы, бег здаецца сам ня ведаеш куды.“

Якуб Колас кажа: „У маім сэрцы гора гэта одгалас знаходзіць; сэрца-ж жалям абагрэта песьні смутку родзіць“. Але „няхай-жаж у сіняй далі песьня разьліецца, каб ўсе людзі ў сьвеце знаелі як нам тут жывецца.“ (Родная песьня).



Якуб Колас.

І так цяжка жывецца мужыку беларусу, так пануе над ім гора, так ён змучаны ім, што адпачыне ад яго толькі на могілках і схавае там і сьлёзы і думкі свае. (Магілкі.)

Усе вершы Коласа, ў якіх ён апісывае родныя абразкі і мужычае жыцьцё, — сумныя, пранікнуты жалям; вершы гэтыя лірычныя і з іх можна бачыць, што Колас надта любіць усё сваё роднае. Ен адчувае ўвесь цяжар жыцьця беларускага народу, спачувае яму, бо ён душой перажывае ўсё тое, што перажывае (беларускі) народ. У вершах з турмы таксама адчуваецца любоў Коласа да роднага краю: ён заўсёды думае аб ім, край родны, вёска нават яму сьняцца, і на яву перад яго вачыма праносяцца родныя абразкі.

У некаторых вершах („на разстаньні“) чуецца бодрасьць духа паэта, зьяўляецца вера ў тое што „наша праўда нам паможа—блісьне сьвет і к нам у ваконца.“ Што „быць ня можа каб ня грэла цёпла сонца“ (Сябром): ён падбодрывае ся-

бе і „хлопцаў“, прызывае іх да работы, гавора каб не бедавалі, „што сонца нізка“, што сьнег закрывае зямлю, бо „прыдзе вясна, сонца гляне, старана ачуняе“, „не загіне край твой родны ў цемнаце ліхіх начэй“, прызывае да веры, што „ўсё што душыць нас і гне“ пойдзе дымам, што „жыцьцё залатое будзе ў нашай старане.“ (Не бядуй)

У другіх-жа вершах гэтага аддзелу чуецца тая-ж сумная нотка, сьвядомасьць немачы, бяздольнасьці, адсутнасьці волі, няпэўнасьць перамены на лепшае (На разстаньні, Песьняр, Пад шум ветра, Хмары).

Але і тут відаць нацыянальнасьць Коласа; наагул любоў да роднага краю адбіваецца амаль ня ў кожным лірычным вершу песьняра.

Нацыянальнае пачуцьцё Якуба Коласа выліваецца таксама і ў празаічных яго творах. Тут таксама ён адчувае няшчасьці роднага краю, ён ніяк ня можа згадзіцца з тым, што „поруч з убогімі людзкімі будынкамі раскінуліся панскія палацы“... „поруч з галотаю роскаш і багацьце“... „разам з людзкімі сьлязамі мяшаюцца панскія вальцы“... „Разам з мужыцкім потам цякуць дарагія віна“. Нудныя песьні беларуса „хапаюць“ яго „за сэрца, жалабяць душу, туманяць вочы, сьлязьмі плачуць і стогнуць, і горкаю упекаю, ціхаю скаргаю плывуць к далёкаму, невядомаму, сіняму, спакойнаму небу“. (Думкі ў дарозе)

Найярчэй нацыянальнае пачуцьцё Якуба Коласа вылілася ў апавяданьні яго „Дудар“. Апавяданьне гэта сымвалічнае. Пад трымя братамі трэба разумець тры братнія народы, паходзячыя ад аднаго бацькі. Пад меншым братам разумеецца Беларускі народ наймяншы, найбяднейшы, найгаратнейшы сярод сваіх суседзяў. У той час, калі большыя браты пашлі па лепшых шляхох жыцьця, знайшлі лепшае шчасьце, меншаму брату выпала самая горшая доля. У сваім цяжкім гаротным жыцьці, скрыўджаны з усіх старон і Богам і людзьмі, ня маючы с кім падзяліцца думкамі, ня маючы каму выліць з грудзей жэўч, накіпеўшую праз увесь час гаротнага жыцьця „між мхоў і балот,“ ён плача, ён пяе песьні, доўгія і нудныя песьні, песьні нядолі.“ І некаму слухаць было яго песень, „таўсты ,высокі лес толькі слухаў яго песьні і сам памагаў яму сьпяваць сваім доўгім шумам.“

Колькі трагічнасьці, жальбы і пачуцьця аўтара чуецца ў гэтых просьценькіх слоўцах! Меншы брат, беларускі народ, гэтак скрыўджаны, такі гаротны, што навет песьні яго „доўгія-сумныя“ ня было каму слухаць паміж людзей, ня было каму адклікнуцца і памагчы яму ў нядолі і толькі „таўсты, высокі лес“ слухаў іх і спачуваў яму, бо памагаў сьпяваць „сваім доўгім шумам.“ Калі ён граў на дудцы, яму лягчэй рабілася на сэрцы, але зноў яго ніхто ня

чуў ці „не хацеў знаць і чуць“, і тут яго жальба прападала „як прападаў туман з усходам сонца, што вісеў над балотам.“

І навет тады, калі пасьля доўгай разлукі ўсе тры браты спаткаліся, меншы брат астаўся скрыўджаным. Старшыя браты добра выглядалі, былі добра адзеты і абуты, меншы-ж брат выглядаў старэй за ўсіх, хоць быў меншым, у рванай сівой сьвітцы, у шапцы кучомцы ў лапцёх з карывымі анучамі, абвіваючымі яго ценкія худыя ногі. Ен маўчаў, бо ня ўмеў гаварыць так прыгожа, як гаварылі старшыя браты яго, а як загаварыў, дык тыя і слухаць не хацелі яго брыдкой „нямой мовы“ дзеля таго, што не сказаў ён сьвету нічога на гэтай мове, дзеля таго, што ніхто ня чытаў работы яго розуму і сэрца на гэтай мове, дзеля таго што ня меў ён песьняроў сваіх.

Родныя браты не даюць яму права загаварыць на роднай мове, права якім карыстаюць усе народы. Колькі трагэдыі зноў у адказе: „Спытайся ў хваёвых крыжоў. Яны табе скажуць пра мае думкі. Мае думкі напісаны сьлязмі, а сьлёзы разам з думкамі разьліліся ў рэчцы. Вецер—песьняр мой. Гора і боль радзілі мае песьні і слухаў іх лес. Спытайся у леса, ён скажа пра песьні мае.“ Вось які адказ меншага брата. Гэты адказ — гэта стогн нашага беларускага народу, цярпеўшага праз некалькі вякоў. Ен зачэпіць самыя чулейшыя стрункі душы кожнага беларуса, прымусіць адчуць усе перажываньні нашага народу, бо ў адказ гэты аўтар улажыў ад шчырага сэрца ўсё тое што чуе ён да свайго народу: жаль, спачуцьцё, найлепшыя пажаданьні, гатоўнасьць пайсьці за народ хоць куды, хоць на што, абы толькі памагчы яму. Казка меншага брата—гэта працяг яго адказу, апісаньне яго гаротнага, сьціснутага з усіх бакоў, як у склепе, жыцьця.

Любоў да бацькаўшчыны Якуб Колас выказаў яшчэ ў сваей шчырай працы для адраджэньня ў пэдагогічнай галіне. Ен заўсёды верыў у тое, што беларуская нацыянальная школа паўстане і працаваў для яе як толькі мог. Так у 1910 годзе была выдана ім кніжка „Druhoje čytańnie“. У кніжцы гэтай таксама, як і ўсіх творах Коласа, выліта гарачая любоў да ўсяго роднага.

**В. Г.**

# ВУЧЫЦЕЛЬ.

„Наступіла вясна. Хутка зацьвіюць сады, лугі. Адчуняе прырода. Яшчэ 2—3 месяцы і мае таварышы скончаць гімназію і пойдуць у сьвет нясьці сьвятло народу"... Так думаў толькі што выдалены гімназіст 8-ай клясы N гімназіі, седзячы на лаўцы, перад хатай свайго бацькі. „За што-ж і чаму толькі я, застаўляны як Богам, так і людзьмі павінен тутка сядзець і нудзець па гімназіі? Я-ж нічога дрэннага не зрабіў, адно толькі паспрачаўся за справядлівасьць. Не, я правы! і яя дам людзёў у крыўду, хоць-бы каштавала мне гэта самым жыцьцём"!... На твару Алеся (так звалі гэтага гімназіста) відаліся ўсе думкі, таіўшыяся ў ягонай галаве. Заняты сваей непасільнай душэўнай працай, Алесь ня ўбачыў, як міма прайшоў ягоны бацька і толькі тады, калі апошні крыкнуў: „Ты дармаед! Схадзі да Сымона, папрасі..." — мігам схапіўся з месца і пацягнуўся ў другі бок вёскі, гдзе жыў Сымон, заможны селянін тае вёскі. Сымон меў сына Міхася, які тры гады ўжо, як скончыў унівэрсытэт і працаваў у аддзеле губэрскай асьветы. Міхась быў нейкая важная асоба і Алесю было неяк боязнаісьці да яго. Аднак прынука змусіла прасіць у Міхася рады. Пайшоў.



Неўзабаўкі Алесь апыніўся ля Сымонавай хаты. Уваходзіць. Прачыніў дзьверы і адразу пазнаў начальніка, з якім яму ня раз прыходзілася гутарыць у гімназіі, калі той прыходзіў рэвізараваць школьныя справы. У хаце, апрача Міхася, з прычыны сьвята, нікога больш ня было. Міхась устаў, прывітаўся пасяброўску, пасадзіў Алеся на лаўку і пачаў гутарку аб апошніх справах. Доўга гаманілі яны і ўва ўсім прыходзілі да аднаго вывада: іх пагляды блізка сходзяцца. Канчаючы гутарку Міхась абяцаў дастаць Алесю мейсца вучыцеля ў аднэй з вёсак N павету. Разьвіталіся новыя сябры ўжо блізка каля паўночы. Выйшаўшы ад свайго нязвычайнага таварыша, Алесь неахвотна пайшоў дамоў, гдзе ўжо даўно павінны былі спаць. „Прыходзіцца трывожыць" — думалася Алесю. „Але-ж і ня мерзнуць на дварэ і рука Алеся паняволі стукнула ў вакно.

Дзьверы адразу адчыніліся, знэрвавапые бацькі яшчэ ня спалі. На гэты раз бацька ня кінуў ніякага слоўца і мусіць спагадаў сыну. Алесь, таксама нічога не сказаўшы, лёг спаць. Але доўга яму ня спалася. Галава была поўная фантазіі аб новай школе, маладых вучнях і інш. Здавалася, што не пасілах будзе справіцца з труднасьцямі, але Алесь даў слова працаваць на адраджэньне свайго заморанага народу і заснуў толькі над раніцай. Час праходзіў. Зноў пацягнуліся аднаабразныя дні, а адказу як не было, так і ня было... Нарэшце дачакаўся ён папераў, і адразу пачаў зьбірацца ў дарогу...

* * *

Прайшло 10 гадоў. Аказалася, што Алесь, стаўшы вучыцелям, павёў справу школы вельмі разумна і зрабіў шмат чаго ў кірунку асьветы ня толькі школьнікаў, але і самых сялян. Ен даставаў шмат беларускіх кніжак з места і пашыраў іх паміж малых, якія з прыемнасьцю чыталі іх, замест трудна зразумелых расейскіх. Няраз гаманіў вучыцель на роднай мове з сялянамі, стараючыся даць ім хоць якія небудзь весткі аб разьвіваючымся беларускім руху. За жывое слова і адкрытую душу вучыцеля, суседзі вельмі любілі яго, а сяляне другіх вёсак вельмі шкадавалі, што ў іх няма вучыцеля беларуса і няраз прасілі начальства прыслаць ім вучыцеля такога, як ў вёсцы N.

Начальства было вельмі зьдзіўлена, чытаючы просьбу аб назначэньні „вучыцеля“ беларуса і пастанавілі разьведаць аб дзейнасьці назначанага вучыцеля беларуса вёскі N, каторы, нічога благога ня думаючы, сьпела і ўсьцяж кідаў семя праўды ў народ і ў маладыя душы. Бачыў таксама вучыцель, што яму шмат шкодзіць недахват поўнай асьветы і, каб запоўніць прабел, праседжываў цэлыя ночы за чытаньнем кніжак. Седзячы аднойчы гэтак за кніжкай, ён пачуў стук ў дзьверы. Была поўнач. З чыстым сумленьнем кінуўся ён адразу адчыняць дзьверы. О!.. Над ўсе спадзеі! Перад вачыма стаяла паліцыя. Уварваўшыся ў памяшканьне яна пачала пераварочваць ўсё да гары, але нічога апрача кніг, ў тым ліку шмат беларускіх, не знайшла. Досіць было і гэтага каб залічыць вучыцеля рэволюцыянерам і арыштаваць. Арыштаваны вучыцель быў завезены ў павятавае, а потым і ў губэрскае места, гдзе і быў засуджаны за прапаганду ў турму.

З мужасьцю пераносіў вучыцель гэтую кару, але ня вытрывала аднак гэткай несправядлівасьці ягонае чулае сэрца і біцца перастала. — Памёр Алесь-вучыцель поўны спадзеі, што з семеньня кінутага ім у маладыя душы, вырастуць новыя старажылы народу, каторыя павядуць яго праз нацыянальнае і соцыяльнае перараджэньне бацькаўшчыны Беларусі, да шчаслівага яе бытаваньня.

1920. Чмурыла.

# Чаму мы павінны шанаваць сваю мову і Бацькаушчыну?

Мы павінны шанаваць сваю мову і Бацькаўшчыну тафому, што мы ў гэтым краю радзіліся, вырасьлі, ды жылі заўсёды. А так сама нашы бацькі, дзяды, ды прадзяды—гутарылі з маленства гэтаю моваю-з ёй і паўміралі. Яны шанавалі сваю родную мову і нам пакінулі прыклад шанаваньня роднае мовы. Калі мы ўсё гэта будзем спаўняць, тады наша родная мова ніколі не загіне, а наадварот: як сонейка сьвеціць на багатых і бедных, так і наша родная мова, як сонейка сьвяціла, сьвеціць цяпер і заўсёды будзе сьвеціць і ў беднай хаце, і ў багатым палацы. Ня глядзячы на тое, што цяпер яна не зусім пасьпела яшчэ выпаўзьці з за хмар. Мы ведаем, што і сонейка не заўсёды бывае ясным—усё-ж бываюць такія хвіліны, калі яно пападае пад хмаркі і зацьмеваецца імі. Потым зноў робіцца такім-жа сьветлым, як і было. Так сама і для нашай старонкі калінекалі, але ўсё-ж настане такі час, калі яна вернецца да свайго прошлага жыцьця. Тады наша родная мова, як сонейка заблішчыць па ўсёй нашай старонцы. Як шмат зорак ёсьць на небе, так і ў нас,—на нашай Бацькаўшчыне-Беларусі ёсьць шмат зорак—працаўнікоў, якіе як зоркі ніколі не пагаснуць, а заўсёды будуць зьяць сваей працай, дзеля адраджэньня нашае Бацькаўшчыны ад такога доўгага сну—пакуль не лягуць у магілу за яе. Як-жа нам не цяжка глядзець на нашу Бацькаўшчыну, якую з кожнай хвіляй як-бы хутчэй хочуць зьцёрці з ліку зямлі, каб яе і сьледу не засталося—нашы добрые, а ў той час і надта шкадлівые, для нас, нашы ворагі. Як-жа нам сэрца не баліць глядзячы на тых шчырых змаганьнікаў нашых, якіе дзень і ноч стараюцца, хутчэй умацаваць, паставіць на ногі нашу старонку і ў іх, па тых, ці іншых прычынах не хапае яшчэ сілаў, каб усё гэта зрабіць. Яны чакаюць, вельмі чакаюць, ды ня могуць дачакацца падмогі. Чаму-ж нам ня ўстаць усім разам ды даць падмогу сваім братом. Мы хаця пакуль што, яшчэ і слабыя, а затое нашыя маладыя сэрцы гараць шчырым каханьнем да роднага краю. Мы пакуль будзем жывы ніколі не пакінем яго. Ня гледзючы на тое, што рабілі, ды робяць з намі, мы больш, ды больш будзем паўставаць на абарону, каб нас было шмат, хаця пакуль, што і слабых. Шмат мы ўжо ведаем такіх працаўнікоў нашых, (якімі ганарыцца наша Бацькаўшчына) яны не шкадуючы нічога,—нават і здароўя свайго, змагаліся да апошняе хвіліны жыцьця, і ня могучы перанясьці зьдзеку чужынцаў ім прыходзілася без пары, мо і ў чужой старане,—злажыць

свае галавы за долю і карысьць Бацькаўшчыны. І гэтага яны не баяліся. Як жа, калі яны такія самыя людзі як і мы і то не баяліся таго цяжкага змаганьня, якое мо й не ў спадзеўкі прывяло іх пакінуць сьвет і шчырую працу дзеля сваей бацькаўшчыны. Чаму-ж і нам не зрабіцца такімі адважнымі і ў гэты самы цяжкі пераж‌ываемы намі мамэнт ня ўстаць на абарону сваей мнагапакутнай бацькаўшчыны Мы баімося, баімося, што ў нас ня хопіць стольки моцы і энэргіі, каб усё гэта зрабіць,—бяз усякага страху, ня гледзячы ці дождж, ці вецер будзе зацямняць нам вочы, мы дружна, хто мае ахвоту, ды веру ў адраджэньне,-—паўстанем і як зоркі зазьяем на нашай многапакутнай Бацькаўшчыне-Беларусі.

Каб і мы, хаця ня надта шмат, але не дарма пражылі на сьвеце і па меры магчымасьці прынясьлі і далі што-колячы ад сябе ўахвяру, дзеля расцьвету нашай бацькаўшчыны і лепшага яе жыцьця!..

**(вуч. 3-й кл. М. Парашкевічанка.)**



* * *

Недаверчыва ноч падыходзіць...
Штосьці слухае... дух пераводзіць...
Цішыня... цішыня... цішыня...
Лёгкай мглой абвязаліся вулкі,
Гоман места вялікі і гулкі
Зьнік з апошнімі косамі дня...
У небе зоры сьмяюцца праз сьлёзы
І хоць ліпы дрыжаць на марозы,
А сьмяюцца чагосьць і яны...
Дык няўжо нас жыцьцё так зламіла—
Што ня знойдзем хаценьня і сілы
Усьмяхнуцца праз сьлёзы і мы...

Н. А.

# Пачатак вясны.

Зіма... Трашчыць мароз... Уся зямелька, дрэвы і кусточкі засланы белаю пеляною халоднага, сьнежнага пуху. Усё жывое пахавалась, бо баіцца, каб старая ведзьма-зіма не замарозіла. Тыя птушачкі, якія так весялілі душу і сэрца чалавека—паляцелі ад нас, уцяклі ад злоснай зімы туды, гдзе заўсёды сьвеціць ясная сонейка, гдзе неба амаль ніколі ня бывае засланае хмарамі, гдзе вечна растуць зялёныя дрэвы і цьвітуць прыгожыя рожы. Чалавек і той навет у гэтую сьцюдзёную пару баіцца выйсьці на сьвет Божы, каб ня зьмерзнуць. Усюды толькі пануе ціша і пустата—здаецца, што замяртвелае царства запанавала на зямельцы, а цар яго мароз толькі ходзіць і пазірае, ці добра накінуты ледзяныя ланцугі на рэкі і вазёры...



Але, як у жыцьці чалавека бываець, што пасьля доўгага жыцьцёвага цяжару прыходзіць дзень сьветлай радасьці і шчасьця, то таксама бываець і ў жыцьці прыроды. І вось мейсца халоднай зімы займаець прыгожая красуля—вясна. Такім парадкам прырода пачынае скідаць з сябе той цяжар, той сум, той сон у які была агорнута доўгі зімовы час. Вясна патроху пачынае ўваходзіць у свае правы. Дні даўжэюць, ночы караччэюць. Усё на сьвеце раптам ажыло, заварушылась. Сонейка, якое так доўга ня грэла і не прысылала свайго цёплага праменьня—глянула з-за цёмных хмар і прыласкала пакрытую сьнегам зямельку. Яно з кожным днём грэе ўсё цяплей і цяплей, разсылаючы ўсюды свае цёплыя праменьні, ад якіх сьнег пачаў шпарка таяць. Ручайкі бягуць з клумам і журчаньнем, рэчкі шукаюць сабе мейсца на лугох і ў глыбокіх лагчынах. Дзеткі выбеглі на вуліцу і крычаць: „Вясна прыйшла! Вясна прыйшла!“ З нецярпеньнем чакаюць таго часу калі разальецца рака. На рэшці той доўгачаканы момант прыйшоў. О, які пекны, які цудоўны малюнак адкрываецца вачам, калі глядзіш на разьліў ракі, на яе абуджэньне ад доўгага сну. Зімою яе быццам ня было, дзеля таго, што зіма зрабіла сваё. Яна закавала раку ў свае моцныя ланцугі, апрача таго накінула на яе ковы сваю сьнегавую вопратку. Па ёй езьдзілі, коўзаліся, як па зямле і навет забыліся аб яе істнаваньні, і раптам, гэта вялізарная ледзяная кара заварушылась і па-

нялась у далячыню, як доўгая доўгая зьмяя. І панясла яна на сабе ўсё, што толькі было на яе паверхні: сьмяцьцё, бруд, скаціну, якую выпусьцілі з хлявоў на вадапой, а часамі навет і чалавечую ахвяру. У канец гэтая доўгая зіма пачала трэскацца і крышыцца. Ледзяныя крыгі, як ваякі-асілкі ўстаюць адна супроць другой, ударыўшысь адна аб адну з трэскам і клумам нясучысь далей. Хутка гэты дзіўны абраз зьнікае і рака застаецца спакойнай. Ціха і плаўна нясе яна свае магутныя воды ў далячыню. Вось і птушачкі, нашы дарагія госьці, пачалі прылятаць з чужой далёкай краіны. Яны з усходу сонейка аж да вечара працуюць над сваімі маленькімі кватэрамі і весяляць людзей сваімі звонкімі, незмаўкаемымі песьнямі. А як пекна, як прыгожа ў гэты час у полі! Выйдзеш і глядзіш... Перад табой адкрываецца бязьмерная мора руні, як зялёнага аксаміту. А жаўранак у нязьмернай вышыні так і зьвініць срэбрам, так і пяе сваю дзіўную песьню, і ліецца яна ў глыбіне неба, як струя чыстай крыстальнай вады, разсыпаючыся срэбрам у глыбіне неба. Стаіш, глядзіш, слухаючы гэту цудоўную музыку; а душа так і рвецца з грудзей, так і хоча ў высь, у нязьмерную высь. Дзе ні глянеш, дзе ні пойдзеш,—усюды зьяе радасьць; усюды вылазяць з зямелькі кветачкі, выходзяць на сьвет мурашачкі, жучкі і другія кузурачкі. Пучкі на дрэвах і кусточках разбухаюць і трэскаюць, з іх паказываюцца маладзенькія, ліпкія лісточкі. Усе расьліны апранаюцца ў новую сьвяточную вопратку зеляні, вітаючы вясну.

А лес, лес! Ен стаіць, як магутны, грозны асілак з паднятай у гару пыхавай галавой, апрануты ў вясеньнюю сьвяточную адзежу. І вясёла, і прыгожа ў лясным царстве. Птушкі радуюцца прабуджэньню лесу і напяваюць яму свае вясёлыя песьні. Вось і вавёрачка, радуючыся цяплу, весяліцца, пераскаківаючы з дрэва на дрэва, з галінкі на галінку. Вось і фіялка вылязла з звольненай ад сьнегу зямліцы і распаўсюджывае свой кволы запах. А неба, яно—як глыбокі бязьмерны акіян разаслалась над Божым сьветам. Яно сьветла-блакітнае, як вочкі малога дзіцяці, толькі калі-некалі набяжыць на яго воблачка і раптам растанець у паветру. А сонейка так ласкава, так прыемна глядзіць на сьвятую аднаўлённую зямліцу. Усё жывое весяліцца на зямельцы і дзякуе Вялікаму, Усемагутнаму Тварцу за яго нязьлічаныя рады. А душа, як бы зусім аднаўляецца і нясецца ў вышыню паднябесную, і хочацца, каб усё жыцьцё так цьвяло, як вясна, і каб ніякія жыцьцёвыя цяжары не дакраналіся аднаўлёнай душы...

І хочацца жыць, жыць разам з вясной!!! Н.

# АДВЕЧНАЕ.

Па даўна працярэбляна-му шляху ідуць дні, гады. Час няўтомна бяжыць і бяжыць. Німа законаў німа сіл затрымаць гэты страшэнны бег. — Мігаюць людзі. Але вечна жыцьцё. Сьмерць у нязможнай злосьці нішчыць матэрыю, — застаецца дух.

Дух і матэрыя!

Пачатак і канец! — Гдзе канчаецца матэрыя пачынаецца дух? Жыцьцё індывідума—сьмерць, сьмерць і... жыцьце —дух, адвечны і нязмерны.

Нясьмяротна душа.

Ня можа, ніхто ня можа згадаць, гдзе яна і ў чым яна. — Бязмежны прастор... Страшэнны лёс чалавека... Два жыцьці прад ім. Адно — у нас саміх, другое — усемагутно і... здань.

Няма раўнавагі, а шлях —шлях цягнецца у далёкую, цемную імглу.

Адзінока сярод шляху стаіць чалавек; а недзе чуецца замучаны вотклік душы.

Куды ісьці?

Уперад — страшэнная цемра, а думкам, думкам адказу няма. Назад — Ха, ха, ха, — стаіць чорт і адвечны пачатак — сьмерць. А можа канец? — спакой і маўчаньне. Праклящьце.

Але, ісьці трэба. а калі не што тады?—тады сьмерць духа і непрыхільная ноч.— — Бьець гадзіннік. Ідуць гады за гадамі. Нішчыцца і творыцца.

І гэтак бязконца, як бязконца імкненьні чалавека.

Імкненьне і дасяганьне!..

— А пасярэдзіне — чалавек. Вялікі, чароўны і... разам — убогі. Працуе мозач, — страшэнна напружаны нэрвы. — Творыцца...

Недзе сьціха, чуваць сьмех, Усьмехаецца сфінкс. Мяне стварылі, мяне спазнайце! — Таемнасьць.

У нязносных муках родзіцца і жыве думка —- Есьць надзея, — вось ужо, блізка, зусім і... радасьць і... радасьць змаганьня, радасьць перамогі.

— Маўчыць сфінкс І ізноў ноч. І няма пачатку і ўсё... бяз конца.

Сярэдзіна. Ха, ха, ха сярэдзіна шляху. Шаленства!..

А мо пакорнасьць? О, за што, за што гэтыя мукі!.. — Нішчыцца.

— Бяжыць час. На ўзгсру, дзе людзі, нешта дзеецца. Не, гэта ня людзі гэта — сьмяротнікі. Матэрыя і дух. — Вялікая моц...

У руках штандар. На ім 2 словы, „Пачатак і канец.“

Адвечнае...

А над усім дзіўная і чароўная песьня — ідэал. Змаганьне і сьмерць!

Усьмяхаецца сфінкс. Чутны балючыя, крывавыя стогны людзеў...

Ціха... Раздаўся звон, — сьціплы, радасны. Склікаюцца людзі да вячэрняй малітвы.

Жыцьце і... адвечнае! О, Божа!

Э.

# З НАШАЕ ПРАЦЫ.

## Наша бібліатэка.

«Загляне сонца і у нашае ваконца».

Шмат ужо чаго пісалі і гаварылі аб бібліатэцы I Віл. Белар. Гімназіі, але мала хто ведае пэўнае сучаснае яе палажэньне. Вось і пастараемся на шпальтах нашае часопісі больш высьвятліць гэтую справу, дадаўшы больш пэўныя лічбы кніжак, праэкт „Дня кнігі“ ў будучыне, а так сама зьмест ахвяршчыкаў.

— Не застанаўліваючыся шмат на карысьці кожнай бібліатэкі, ў жыцьці ня толькі гімназіі, але і наагул грамадзянства, пяройдзем да агляду нашае гімназіі.

Вядома, што „балючае“ пытаньне аб стварэньні гімназіальнай бібліатэкі падымалася з самага пачатку істнаваньня гімназіі. „Балючае“, дзеля таго што, тыя матэр'яльныя варункі ў якіх знаходзілася Беларуская Гімназія, не толькі не давалі магчымасьці стварыць бібліатэку, але нат дастаць лавак, каб сядзець вучням пад час лекцыяў. Пэўне кожны стары вучань беларускае гімназіі, добра памятуе як прыходзілася сядзець за доўгімі нявыгаднымі сталамі. Вось у якіх абставах падымаецца думка аб бібліатэцы і робячы рожныя высілкі, зьбіраюцца кніжкі невялічкай лічбаю, абслужваўшыя вучняў да апошняга 1921-22 вучэбнага году. Ясна, што такая бібліатэка дае зусім мала, тым болей, што кнігі былі слабога з'месту. Але хто думаў, што гэтая закінутая шафка, ёсьць грунт дзеля будучай „фундамэнтальнай“ бібліатэкі?

Рэформы зробленыя ў гімназіі не прайшлі дарма. У склад пэдагагічнай рады ўвайшлі добрыя знаўцы гісторыі і літэратуры, дзякуючы каторым быў падгатаваны грунт дзеля самастойнай, апрача лекцыяу, хатняй адукацыі праз кнігі. Фактычна, толькі з гэтага часу пачынаецца энэргічная праца вучняў супольна з п. Красінскім, вызначаным пэдагагічнай радай гімназіі. Вучнямі ладзяцца вечарыны, пушчаюцца падпісные лісты, робяцца добрачынныя месячныя ўзносы і інш. Гэткім парадкам, лічба кніжак за 2-3 месяцы працы (да 8-га сьнежня), дасягае ад 286, быўшых раней, да 856. На пагляд лічба дужа малая, але ўцяміўшы добра даражыню кожнай кнігі акажацца і ня так малою. Адылі, праца гэтым неабмежвалась, а наадварот ўсё больш і больш узрастала, і да апошняга часу налічвае 1.501

кнігу, разам з ахвярамі. У гэты час праэктаваўся, так званы „Дзень кнігі"; урачыстае адчыненьне бібліатэкі, але беларускаму грамадзянству ў той час было не да урачыстасьцяў... і прышлося адчыніць яе пры самай звычайнай абстаўцы. Думка аб „Дню кнігі," адылі зусім не адпала, і можна спадзявацца, што ён адбудзецца ўзапраўдны „Дзень кнігі" юбілею Францыска Скарыны.

Падпісные лісты распаўсюджаныя па некатарым вёскам, далі даволі добрыя ахвяры грашмі і кнігамі; відаць што вёска зацікаўлена ў пабудове сваёй уласнай, нацыянальнай бібліатэкі. Пасьля некаторага парадкаваньня з кніжкамі, вырашана была адчыніць бібліатэку,-чытальню, якая неўзабаве і была адчынена. Адсутнасьць вокладак не дала магчымасьць пакуль што, карыстацца ўсімі кнігамі, а толькі больш—менш тымі, якіе спрыяюць сваёй захованасьці.

Гэткім парадкам, з лятуценьняў аб урачыстым адчыненьні нашае бібліатэкі нічога ня выйшла, а прышлося адчыніць, як вышэй адзначана, пры самай звычайнай і над не спрыючай абставе. Толькі ярка палілась электрычная лямпка, кідаючы свой блыск на твары чытачоў і белыя страніцы кніжак. Ці-ж ня кіне гэтая моладзь яскравые праменьні сьвятла навукі, ў свой цёмны, шматпакутны народ, каб дайсьці з ім да лепшага, сьветлага жыцьця ў будучыне?

М. І.

⊚⊚⊚⊚⊚⊚⊚⊚

# Наш тэатр.

Патроху, але праўдзівымі крокамі ідзець наша праца ўперад. Працуем—колькі магчыма і мы верым, што гэта не астанецца без карысьці для нас саміх і для ўсей нашай агульнай справы. У аб'яднаньні—моц, і да гэтага мы імкнем... Няхай-жа жыве гэтая спадзея ў свае сілы і няхай нашыя калегі ўсей душою прыйдуць нам на помач з усіх куткоў нашае Бацькаўшчыны.

...Прад намі шырокі шлях працы. Гэта—тэатр. Ня будзем казаць аб значэньні яго, але, пэўна, што ў ім яскрава могуць праявіцца ўсе творчыя сілы моладзі і наша энэргія. Пабачым што зроблена за ўвесь час.

Німа чаго казаць аб тэй матерыяльнай карысьці, якую прынясла наша дзейнасьць у гэтым кірунку, што давала магчымасьць узяцца за шмат што іншае, так сама карыснае і патрэбнае.

Як ніколі, добра згулялі спэктакль-вечар 13 лістапада 1921 г.

На сцэне—поўная жыцьцёвай праўды і глыбокага пачуцьця любові да роднай старонкі — драма Э. Ожэшковай

„У зімовы вечар".— Ня згінула марна праца пакладзеная артыстамі і нашым рэжысэрам п. Красінскім.

Ува ўсю шырыню паказаў вуч. Калаўр мастацкі абраз Падарожнага (Рысь). „Сумны жаль загнаў", жаль, крык душы чалавека без сям'і, бяз ласкі і шчасьця, каторага як сабаку ганяюць сваі-ж браты—людзі. „Ідзі і не грашы болей"—любоў і цярпеньне, а над усім—Бог; вось заключны акорд гэтай цяжкай жыцьцёвай драмы.

Ня верылась, што гэта ігра вучняў. Усе артысты далі цэльны, глыбокі малюнак жыцьця.

Бездакорна гулялі 29 сьнежня ў другі раз „У зімовы вечар". А 25 лютага новы спэктакль-вечар і ізноў з вялікім пасьпехам.

Усяму грамадзянству паказала вучнеўская моладзь, што здольнасьці ёсьць, ёсьць шчырая ахвота да працы для свай Бацькаўшчыны, каб разагнаць цемру і асьвяціць нашае жыцьце. У супольнай дзейнасьці, гарантыя нашага пасьпеха, і ад нас залежыць, каб Беларускі тэатр адрадзіўся і быў-бы аднэй із галін, духовых патрэб жыцьця.

Цяпер наша мэта паставіць „Раскіданае гняздо" Янкі Купалы і „На дне" М. Горкага. Работа даўгая і цяжкая, але маем надзею, што здоляем усе перашкоды і дасягнем таго, чаго жадаем.

**Ж.**

◎◎◎◎◎◎◎◎◎

# Гістарычна-Літэратурны Гурток.

У пачатку гэтага вуч. году быў адчыняны пэдагогам п. Красінскім пры І Віл. Бел. Гімназіі, Гістарычна-Літэратурны Гурток, мэтай якога з'яўляецца пашырэньне сярод вучняў зашкольнай адукацыі. Гурток да апошняга часу вёў даволі інтэнсіўную працу. Было прачытана шмат лекцыяў на тэмы ня толькі беларускія, але наогул навуковыя. Лектарамі з'яўляюцца ня толькі пэдагогі гімназіі п. Красінскі, п. Луцкевіч і п. Вішнеўскі, але запрошаныя збоку п. Цэсьлі і п. Чыжэўскі. Вучні добра адчуваюць карысьць гуртка і спадзяюцца, што пачатая праца ў Гуртку, будзе цягнуцца далей ў гэтым напрамку.

**N.**

◎◎◎◎◎◎◎◎◎

# Беларускі хор.

Хор І Віленскай Беларускай Гімназіі з'яўляецца ня толькі хорам гімназіяльным, але беларускім хорам на ўсю Вільню. Дзеля гэтага ўжо даўно Пэдагагічная Рада гімна-

зіі пачала зварочваць увагу на яго добрую арганізацыю. Аднак неадпаведныя ў гэтай справе вучыцялі шмат перашкаджалі запраўднаму яго разьвіцьцю і гэткім парадкам справа гэтая да апошняга часу не урэгулявана. Усёж-такі гімназіяльны хор змог зрабіць некалькі выступленьняў на чале з п. Згірскім.

У апошні час па некаторым прычынам п. Згірскі адмовіўся ад рэгенства і назначаны новы вучыцель пяяньня п. Стэповіч, які ня гледзячы на дужа кароткі час сваяго бытаваньня ў гімназіі, здалеў выступіць з хорам у дзень сьвяткаваньня ўгодкаў 25 сакавіка. Можна спадзявацца, што п. Стэповіч зможа зрабіць запраўдны беларускі хор; тым болей, што шмат добрых сьпявачак знаходзіцца ў беларускім прытулку, здалеўшых у часе бавеньня п. Згірскага выступіць самім і з'вярнуць увагу на сябе ўсяго беларускага грамадзянства.

**N.**

# ┼ Арнольд Дыліс.

Перад самым пачаткам 1921—22 вуч. году, ўначы з 12 на 13 верасьня, загінуў нявіннай ахвярай на 19-ым годзе жыцьця, вуч. VII кл. I Віл. Бел. Гімназіі, Арнольд Дыліс.

Нябожчык пачаў сваю навуку ў Віленскай Рэальнай школе, а падчас нямецкай акупацыі жыў, і вучыўся ў Самары.

Вярнуўшыся на бацькаўшчыну ў 1919 годзе, ён паступіў у V кл. вышэй азначанай гімназіі, і адразу здабыў сымпатыю з боку калег па клясе і гімназіі.

Здольны матэматык, ён ніколі не адмаўляў памагчы ў цяжкіх выпадках выкананьня лекцыяў. Будучы сам ліцьвіном, ён шмат памагаў зьбліжэньню беларускай моладзі з літоўскаю, а таксама прыймаў дзейнае ўчасьце ў арганізацыі беларускай вучнёўскай моладзі, і закладаньні нашае часопісі. Вестка аб сьмерці Арнольда, як пярун праняслася ў сэрцах ўсіх ведаўшых яго, і сабрала тлумы маладзі ў яго труны. Хаўтурная працэсія, сярод каторай, апрача радні, знаходзіліся амаль што ня ўсе старшыя вучні беларускае і літоўскае гімназіі, была сустрэчана на могілках духавым аркестрам іграўшым хаўтурны марш (нябожчык знаходзіўся падчас жыцьця таксама ў гэтым аркестры).

Сярод множства красак, на могілцы Арнольда быў зложаны пекны вянок з надпісам на стужцы: „**Даражэйшаму Арнольду, ад калегаў па працы і гімназіі.**

Спачывай-жа, дарагі калега, памяць аб табе жыве сярод тых, хто цябе пазнаў у працы.

**М.**

# Хроніка I В. Б. Г. 1921-22 вч. г.

### Верасень.

12. Сьмерць Арнольда Дыліса вуч. VII кл.
15. Пачатак заняткаў у гімназіі.
25. Адчыненьне Гістарычна-Літэратурнага гуртка.

### Кастрычнік.

Звычайныя заняткі праз увесь месяц.

### Лістапад.

13. Першы вучнёўскі вечар на карысьць бібліатэкі. Вучні згулялі „Узімовы вечар"
19. Угодкі слуцкага паўстаньня.
25. Сьмерць вуч. III кл. А. Бабкінай.
29. Першая пакупка беларускіх кніжак у бібліатэку.

### Сьнежань.

11. Вечар на карысьць беларускага прытулку. Згулялі „Хлопчык у лесе"
17. Адчыненьне вучнёўскай вокладніцкай майстэрні
29. Другая вучнёўская вечарына. Вучнямі паўторана „У зімовы вечар" і „Галодны Дон-Жуан"

### Студзень.

3. Куплена другая партыя кніжак для бібліатэкі.
19. Елка для вучняў гімназіі.
20. Арышты сярод беларускага і літоўскага грамадзянства, паміж якімі знаходзіліся арыштаваныя вучыцялі п. Гарэцкі, п. Якубецкі і п. Краскоўскі.
24. Першы выезд беларусаў матурыстаў у Пражскі унівэрсытэт (Чэхаславакію).

### Люты.

18. Адчыненьне вучнёўскай бібліатэкі-чытальні.
19. Першы вечар беларускага студэнцкага саюзу ў Вільні.
25. Сьмерць Ядвігіна Ш., вядомага беларускага песьняра адраджэнца.
25. Трэці па ліку вучнёўскі вечар. Вучні згулялі „Чорт і баба" і „Запіскі вар'ята.

### Сакавік.

4. Адбылася лекцыя п. Тарашкевіча „Аб пачатку беларускага народу і мовы"

19. Лекцыя кс. Станкевіча на тэму „Жаночы рух і беларуская кабета“.
24. Выйшаў першы № студэнцкай часопісі „Наш Шлях“. Рэдакцыя і адм. Біскупская вул. 12.
25. Сьвяткаваньне 4-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

## *Ад Рэдакцыі.*

—Рэдакцыя М. Ж. просіць усіх грамдзян, жадаючых падтрымаць нашу часопісь, як матэр'ялна, так і маральна, прысылаць свае адрэсы. Вільня, Вострабрамска 9.

**(Рэдакцыя Мал. Жыцьця)**

### Задача № 1.



У даным квадраце знайсьці назовы двух вядомых бел. гарадоў і разьмясьціць так, каб паставіўшы па аднэй літары ў клетцы і чытаючы па крыжыкам, выходзіла назова аднога места, а па рыскам другога. (Чытаць з левага боку) Крыжык і рыска патрабуюць адну супольную літару.

### Задача № 2.



Прыдумайце чатыры назовы, каб паставіўшы па аднэй літары у клетцы і чытаючы ў напрамку паказаным стрэлкамі выходзіла 1—2). Назовы двух беларускіх местаў, 3) назова жыхара аднэй нацыі, 4) імя і прозьвішча пісьменьніка з пэрыяду новай бел. літэратуры.

X. I.

Адказ у чародным нумары.

Адрэс Рэдакцыі: **Вільня Вострабрамская № 9**

**Цана асобнага нумару 100 м.**

Рэдактар-выдавец Аляксандр Пусько.

Друкарня „ДРУК“, Субач, 2